Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 5. Вільня, Серада, 2-га сьнежня 1925 г. Год I.

## Стары спосаб.

Усе мы вельмі добра памятаем, якую абмылку — у самым пачатку сваей соймавай працы—зрабіў Беларускі Пасольскі Клюб, калі за некалькі пекных слоў назначанага тады прэм'ерам ген. Сікорскага аддаў яму свае галасы. Тое-ж зрабілі былі і ня больш за нашых палітычна выробленыя ўкраінскія паслы.

Ведама, ген. Сікорскі і ня думаў спаўняць пасьля дадзеных так „вялікадушна" абяцанак беларусам і ўкраінцам, хаця публічна прызнаў скаргі і дамаганьні іх справядлівымі. Але сваім лоўкім ходам ген. Сікорскі дапяў сваей мэты: разьбіў адзіны опозыцыйны фронт „нацыянальных меншасьцяў", пасеяўшы ў душах жыдоў і немцаў недаверые да „славянскіх меншасьцяў".

Акурат такую-ж камбінацыю паўтарыў і ўрад Грабскіх, толькі ўжо адносна да другой „меншасьці"—да жыдоў. І таксама жыды паверылі ўрадавым абяцанкам і разьбілі адзіны фронт опозыцыі „меншасьцяў" і.... аказаліся ашуканымі!

Прэм'ер Скшыньскі трэці раз ужыў таго-ж спосабу, які ўвёў да ўжытку ген. Сікорскі: як апошні ў свой час гаварыў з соймавае трыбуны аб патрэбе прымірэньня з беларусамі і ўкраінцамі, дэманстрацыйна абмінаючы жыдоў і немцаў, так цяпер пан Скшыньскі дэманстрацыйна гаварыў аб жыдох, зусім не ўспамінаючы пра беларусаў, украінцаў, немцаў.....

Але жыды гэтым разам аказаліся больш асьцярожнымі, чым у часе падпісываньня „пакту" з братамі Грабскімі. Жыды проста ўстрымаліся ад падачы галасоў ці то за, ці проці ўраду п. Скшыньскага, ясна гаворачы гэтым: „пачакаем, як усё гэта будзе выглядаць не на словах, а на дзеле!"

І асьцярожнасьць іх—зусім апраўданая: прынамся не пасьпелі прагучэць словы пана Скшыньскага, сказаныя ў Сойме, як адна з яго заяваў, датыкаючая, праўда, агульна-фінансавага пытаньня, аказалася.. „неапраўданай"! Мы маем на думцы ягоныя словы аб тым, што новы ўрад не дапусьце да далейшага ўпадку курсу польскага злотага, які як раз пасьля экспозэ новага прэм'ера пачаў каціцца ўніз так, як ня бывала пры Грабскім....

Стары спосаб таргаваньня галасамі „нацыянальных меншасьцяў", які перайшоў да Польшчы ад нябожчыцы Аўстрыі, пачынае ўжо губляць сваю сілу. І трэба спадзявацца, што— пасьля няўдачлівых спроб паадзінокіх нацыянальнасьцяў „вытаргаваць" ад ураду нейкія палёгкі толькі для сябе,—усе яны зразумеюць, што не ад дробных уступак, а *ад рашучае перамены ўсяе сыстэмы „панаваньня" Польшчы над „меншасьцямі"* можна спадзявацца нейкае паправы іх быту.

Але ці ёсьць падстава верыць у такую рашучую перамену?!....

## Хатнія справы.

Урадавы крызіс у Польшчы гэтак заняў у апошнія тыдні агульную ўвагу, што ня было ні магчымасьці, ні часу спыніцца на адным зьявішчы нашага хатняга—краёвага жыцьця.

А зьявішча магло-б выклікаць сумныя вывады адносна да аднаго з кірункаў беларускае грамадзкае мысьлі: да так-званае хрысьціянскае дэмакратыі.

Дагэтуль беларускія „хадэкі", у якіх нічога, апрача назову, ня было супольнага з польскай „хадэцыяй", стаялі на дэмакратычным становішчы, гаварылі вельмі рашуча аб абароне працоўных масаў і йшлі адзіным фронтам з усімі беларускімі радыкальнымі групамі ў справах чыста нацыянальных. Не выяўляючы характэрнага для сваіх польскіх цёскаў нацыянальнага шовінізму і ненавісьці да другіх нацыянальнасьцяў, беларускія хадэкі і на выбарах у Сойм і пасьля выбараў маглі, дзякуючы гэтаму, ужывацца мірна з усімі нацыянальнасьцямі, увайшоўшымі ў склад „шаснасткі", выяўляючы асаблівую прыхільнасьць да народу літоўскага.

Але вось здарылася, што прадстаўнікі жыдоўскае буржуазіі ў Сойме пайшлі на ўгоду з польскай буржуазіяй у асобе створанага апошняй ураду братоў Грабскіх, зламаўшы гэтак адзіны дагэтуль опозыцыйны фронт усіх „меншасьцяў" у Сойме. Сумнае здарэньне! Тым балей сумнае, што і сама жыдоўская буржуазія нічога на гэнай угодзе ня выйграла: з ёй браты Грабскія паступілі акурат таксама, як у сваім часе з беларусамі і ўкраінцамі паступіў колішні прэм'ер ген. Сікорскі... Але яно магло аказацца йшчэ больш сумным затым, што на падставе гэтага фальшывага тактычнага кроку прадстаўнікоў жыдоўскае буржуазіі ў Сойме неўспадзеўкі пачаў расьцьвітаць сярод беларускіх хадэкаў... антысэмітызм!

Прынамся орган гэтае групы — „Biełar. Krynica", — які так горача паўставаў нядаўна проці таго, што ў Радавай Беларусі жыдоў-мястачкоўцаў, утраціўшых магчымасьць займацца таргоўляй, надзяляюць зямлёй нароўні з сялянамі, — выступіў з перадавой стацьцёй, падпісанай прозьвішчам Давідовіч, у якой паўтарыў усю праграму эканамічнае барацьбы з жыдоўскім гандлем, якую дагэтуль праводзілі польскія нацыяналісты. Усё гэта затым, што быццам-то ўвесь жыдоўскі народ павінен нясьці адказнасьць за пастунак сваіх буржазных паслоў, павінен панясьці і „заслужаную" кару за гэты пастунак...

Ведама, выступленьне аўтара гэтае стацьці паказуе на поўную палітычную недасьпеласьць яго і поўную незнаёмасьць з істотай зьявішчаў эканамічнага жыцьця: беларускі гандаль не паўстане і не разаўецца на тэй толькі падставе, што нейкая група людзей гэтага захоча! Але што гэткую стацьцю дапусьціла наперадзе нумару рэдакцыя часопісі, гэта ўжо яе вялікі грэх. Гэтым сваім дзіцячым гневам „на жыдоў" газэта заслужыла службу адно толькі польскаму нацыяналізму і імпэрыялізму, і ўжо „Słowo" з захапленьнем абвясьціла было радасны для польскае палітыкі факт кліча „Biełar. Krynicy" да барацьбы з жыдамі —якраз у той мамэнт, калі адбываецца аб'яднаньне ўсіх польскіх партыяў дзеля ўзмацаваньня польскае дзяржаўнае ўлады над „меншасьцямі"...

К чэсьці рэдакцыі „Biełar. Krynicy" трэ аднак сказаць, што яна хутка адумалася і ўчыніла ўсё, каб загладзіць свой дужа няўдачны крок. У № 9 „Biełar. Krynicy" з 22 лістапада зьмешчаны ажно тры стацьці ў справе беларуска-жыдоўскіх адносінаў, у якіх аўтары разьбіваюць усю наіўную ідэалёгію п. Давідовіча, а рэдакцыя ад сябе робіць гэткую заяву:

„Ад сябе мы з прыемнасьцяй сьцьвярджаем наступныя факты:

1. Умову польска жыдоўскую падпісалі жыдоўскія соймавыя паслы (і то ня ўсе), а дзеля гэтага можа быць з боку беларусаў нездаволеньне на іх-жа, а не на ўвесь народ жыдоўскі.

2. Народ беларускі і народ жыдоўскі, бяручы іх адносіны наагул, жывуць у згодзе і ўмеюць быць адны адным карысны, шануючы ўзаемныя правы і часам дапамагаючы ўзаемна ў змаганьні за гэтыя правы.

3. Польска-жыдоўская ўмова, дакананая дзеля нічога нявартай для жыдоўскіх шырокіх масаў карысьці і аблічаная на кароткую мэту, ужо бадай цалком парвалася.

4. Нашым ідэалам ёсьць, каб „махерствы" цалком счэзлі з зямлі, а каб беларускі народ і жыдоўскі жылі між сабою заўсёды ў згодзе, шанавалі адны адных правы, а также дапамагалі сабе ў змаганьні за іх".

Мы з свайго боку з няменшай прыемнасьцяй можам сьцьвярдзіць, што выяўлены п. Давідовічам жыдаедзкі настрой аказаўся толькі яго асабістым настроем, непадзеленым усей групай беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў. Можам сьцьвярдзіць, што вялікія агульналюдзкія ідэалы, якія ад пачатку беларускага адраджэнскага руху напісаны на нашых штандарах, дагэтуль ня ўтрацілі сваей сілы і павагі сярод усіх запраўды беларускіх партыяў і груп.

**І. Мялешка.**

## Паварот беларускіх палітычных эмігрантау у БСРР.

Польскае ўрадавае тэлеграфнае агенцтва ПАТ наказуе паводле ковенскае газэты „Новости", што на падставе амністыі для палітычных эмігрантаў у Радавай Беларусі маняцца вярнуцца ў Менск: з Чэхаславакіі — б. старшыня эсэраўскае „Рады Рэспублікі" Крэчэўскі і б. міністры Захарка і Заяц, з Амэрыкі — б. міністар БНР і міністар беларускіх спраў у Літве Варонка, з Коўны — б. старшыня рады міністраў БНР Цьвікевіч і б. беларускі консул у Коўні Валькевіч, ды цэлы рад б. урадоўцаў б. міністэрства беларускіх спраў у Коўне.

Пажадаем ім, каб на Бацькаўшчыне знайшлі для сябе лепшы спосаб працы для свайго народу, чым бескарыснае цяпер бадзяньне на чужыне.

## Дэклярацыя ураду Скшыньскага.

### Экспозэ новага ураду.

У чацьвер на паседжаньні Сойму новы прэм'ер Скшыньскі зрабіў так званае экспозэ, ці „выклад" тэй праграмы палітыкі і працы, якую яго ўрад будзе праводзіць у жыцьцё.

#### Няма праграмы.

Свой урад красамоўны аратар азначыў, як „урад вялікіх цяжараў, у якіх апынуўся край, глыбокага неспакою аб заўтрашні дзень, але і—нязломнай волі да працы ды гатоўнасьці ўзяць на сябе адказнасьць за ўладу.

Але дзіўная рэч!—прэм'ер адразу сьцьвярджае, што гэты ўрад ня мае... ніякай праграмы!.. Бо „праграмай ураду зьяўляецца будова ўраду". Урад п. Скшыньскага яшчэ толькі зьбіраецца—разам з Соймам—апрацаваць меры і способы, якімі мае радзіць краю ў яго цяжарах, заспакаіваець яго неспакой.

Іншымі словамі—урад Скшыньскага прыйшоў ратаваць край—з пустымі рукамі, ня маючы ніякой гатовай, апрацаванай праграмы. Гатовым у новага прэм'ера ёсьць пакуль што толькі яго „непараўнанае красамоўства".

#### „Узгадаваньне" няздольнага да працы Сойму.

Другой задачай габінэту п. Скшыньскага мае быць — „узгадаваньне" сучаснага Сойму...

Бо-ж перад тым, як „будаваць" разам з Соймам праграму ўрадавай працы, трэба напярод навучыць гэты Сойм—павялічыць выдатнасьць сваей працы"...

#### „Напрамак высілкаў ураду"

Але ня маючы дакладнай праграмы, якой, паводле трафных (!) слоў прэм'ера, „здаецца" запасьпешна мець ужо.. на чацьверты дзень істнаваньня ўраду", прэм'ер мае рашуча азначаны — „агульны напрак, у якім пойдуць яго высілкі" і „тыя неперакрачальныя рамы, у якіх ён будзе працаваць"..

І ці-ж магло ў каго, ведаючага клясавы склад урадавай большасьці, хаця на адну хвіліну спарадзіцца сумляваньне што да гэтых — „агульнага напрамку" і „няперакрачальных рамаў" працы новага ўраду. Як слушна казалі ў часе дыскусіі прадстаўнікі апазыцыі, урад п. Скшыньскага прадстауляе ня больш, як — „другое выданьне ўраду Грабскага"...

Розніца толькі ў тым, што... п. Скшыньскі бярэцца гаварыць аб тым, чаго... не разумее! Запраўды-ж, ці меў бы хто іншы, ня маючы „красамоўнага" таленту п. Скшыньскага, заявіць на ўвесь сьвет з парляманцкай трыбуны, што „Польшча, дзякуючы Грабскаму і вялізарнаму высілку гаспадарчага жыцьця краю, (!) стаіць перад аблічам сталай паўнацэннай, валюты" — і заявіць гэта напярэдадні спадку злотага з 6 да 9 злотых за даляр?

### „Рэальны бюджэт“.

Акурат такімі-ж „рэальнымі“ зьяўляюцца і ўсе абяцаньні прэм‘ера адносна „рэальнасьці бюджэту“, ці яго запраўднай раўнавагі, якая азначаецца датасаваньнем выдаткаў да даходаў, але не наадварот, як было дагэтуль!..

Ці-ж запраўды новы прэм‘ер маніцца „жыць паводле стану“ і выдаваць толькі гэтулькі, сколькі дазволяць яму атрымліваныя даходы?!. Але — каму-ж ня ясна, што гэта зьявілася-б перад усім—рашучым адхіленьнем ад „агульнага напрамку“ і рашучай адмовай ад усей „мацарственай палітыкі“, адмовай ад „разбудовы па над стан“ сучаснай Польшчы?! Да гэтага п. Скшыньскі мо і будзе змушаны сілай падзей, але гэтага ані ён, ані яго ўрадавая большасьць сьведама ня хочуць. Дык у вельмі хуткім часе так-званая „падаткавая шруба“ так сказаць, „скруціцца“ і пачне круціцца наўкола на адным месцы...

Найбольш характэрнай зьяўляецца заява пана Скшыньскага, што „ашчаднасьці“ ня будуць датыкаць бюджэту ваеннага міністэрства, — значыць, што Польшча і далей будзе вясьці непасільную ёй мілітарыстычную палітыку, апіраючы свой быт толькі на арміі, якая зьяўляецца найвялікшым выдаткам у польскім бюджэце... Пры такой пастаноўцы справы „ашчаднасьці“ наагул нічога не дадуць, хіба пачнецца ліквідацыя школ і т. п.

### У зачараваным коле.

Тая „нерэальная раўнавага“ бюджэту (калі выдаткі азначаюць лічбу даходаў), якую дагэтуль утрымліваў Грабскі, магла б надалей істнаваць, калі-б Польшча атрымала загранічную пазыку. Бо ў краі браць грошы з таго, з каго дагэтуль бралі буржуазныя ўрады, больш немагчыма. Але п. Скшыньскі добра разумее, што навет пад яго красамоўства, навет пад яго „асабістую прыязьнь“ з Чэмбэрленам і іншымі „вялікімі гэтага сьвету“ — ніхто яму заграніцай грошы ня дасьць. А калі ня будзе замежнага крэдыту, дык і ніякой раўнавагі ў бюджэце ня будзе. А ня будзе раўнавагі, дык і ня будзе крэдыту. І вось — з гэтага зачараванага кола ўрад Скшыньскага зусім няздольны выбрацца на запраўдны новы, вольны і здаровы шлях.

### Адносіны з заграніцай.

Зразумела, што прэм‘ер Скшыньскі не шкадаваў кампліментаў — міністру загранічных спраў у габінэце Грабскага — таму-ж Скшыньскаму! — за яго вялікія пасьпехі ў галіне замежнай палітыкі — „ад Жэневы да Лёкарно... „Ніколі ляпей не стаялі міжнародавыя справы Польшчы, як цяпер“,—дзякуючы міністру Скшыньскаму,—сцьвярджае з усім аўтарытэтам знаёмасьці рэчаў і... бесстароннасьці прэм‘ер Скшыньскі.

Адно толькі... Польшча мусіць і далей быць вернай Францыі, якая прымушае Польшчу жыць „па над стан“ і быць французскім жандаром на Усходзе Эўропы... Вось, дзеля чаго Польшча ня можа зьменшыць і руйнуючых яе выдаткаў на армію...

### Урад „выкананьня Канстытуцыі“.

Прэм‘ер урачыста абяцуе, што новы „ўрад згоды“ ўрадавых клюбаў у Сойме мае перад усім шанаваць усе тыя... партыі, якія ўвайшлі ў склад урадавай каліцыі!.. Вось,—што праўда—дык праўда!.. Але, апрача гэтага, гэты „ўрад згоды“ вялікадушна абяцуе яшчэ ў дадатку (а tak-że) і адносна да ўсіх іншых грамадзян Польшчы, навет („tak-że“) „адносна да іншых нацыянальнасьцяў“ (!) „выконываць найлібэральнейшую з усіх канстытуцыяў у сьвеце—нашу Канстытуцыю“.

Але чамусь з усіх „іншых“ нацыянальнасьцяў у Польшчы велікадушны аратар успамінае толькі і выключна адных жыдоў? Ні аб беларусах, ні аб украінцах новы прэм‘ер ня меў ані часу, ані ахвоты сказаць аніводнага слова!..

## Становішча соймавых клюбаў.

Уся стракатая ўрадавая большасьць Сойму ў сваіх дэклярацыях у адказ на экспозэ п. Скшыньскага пяяла амаль не аднолькавую хвалу свайму ўраду, хвалючы адначасна свой уласны розум.

Хрысьціянскія абшарнікі, наадварот, вуснамі п. Дубаневіча пакінулі сабе вольную руку.

Пас. Бартэль ад імя Партыі Працы заняў крытычнае становішча адносна да ўраду.

Вызваленьне праз п. Путка заявіла, што ўрад Скшыньскага — толькі „другое выданьне ўраду Грабскага“. Гэты ўрад будзе ўрадаваць проці волі і інтарэсаў усей сялянскай клясы ($^3/_4$ насяленьня Краю!). Што будзе з гэтага—ясна. Вызваленцы дамагаліся заклікаsuccessfully да ўраду... п. Пілсудскага!

Украінец Прыступа заявіў, што ўратуе Польшчу толькі работніцка-сялянскі ўрад.

## Урад Скшыньскага і Беларусы.

На паседжаньні Сойму 25 лістапада—ў часе дыскусіі аб экспозэ прэм‘ера Скшыньскага — абодва беларускія пасольскія клюбы занялі выразна няпрыхільнае становішча ў адносінах да новастворанага ўраду, абапертага на правіцова-пэпэсаўскай коаліцыі.

Падаем зьмест прамоваў прадстаўнікоў гэтых клюбаў—„Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады“ і „Беларускага Пасольскага Клюбу“.

### Прамова дэп. Валошына (Бел. Сял.-Раб. Грамада).

Перад усім прамоўца адзначыў, што ягоны клюб ня мае адносна да ўраду коаліцыі „нацыяналістычнае Хіены з псэўда-сацыялістычнай ППС і дойлідзярскім Пястам“—ніякіх сумляваньняў.

Новы ўрад, як гэта паказвае захаваньне п. Станіслава Грабскага на становішчы міністра асьветы, у галіне прасьветных спраў беларускага народу суліць адно толькі далейшы ўціск беларускае школы і далейшае ламаньне „языковых законаў“: бо-ж гэта ён, пан Грабскі, зьнішчыў 67 беларускіх школ,не дапусьціў да адкрыцьця ніводнае з тых 412 беларускіх школ, на якія, згодна з законам з 31 ліпня 1924 г., было пададзена 15,000 дэклярацыяў,—гэта ён завёў самавольна ў прыватных беларускіх гімназіях выкладаньне цэлага раду прадметаў папольску, хаця гэтым нарушыў і міжнародавыя трактаты аб правох меншасьцяў і польскую канстытуцыю. Больш году ужо ляжыць у міністэрстве статут Таварыства Беларускае Школы, але ўрад не зацьвярджае яго, каб ня даць магчымасьці будаваць прыватныя беларускія школы.

Другім міністрам, якому прамоўца выказывае поўнае недаверые, зьяўляецца міністар унутраных спраў, п. Рачкевіч. Адзначыўшы тыя рэпрэсіі, якія адміністрацыя ў Заходняй Беларусі тасуе да ўсіх, хто яўна выступае, як беларус, прамоўца кажа, што „у Заходняй Беларусі толькі таго не арыштоўвуюць, хто нічога не гавора і нічога ня чытае“.

Ня менш пануры абраз пануе і ў сфэры дзейнасьці міністэрства справядлівасьці, на чале якога стануў хрысьціянскі дэмакрат п. Пехоцкі. У галіне зямельных спраў і далей будзе вясьціся палітыка калянізацыі беларускіх зямель польскімі асаднікамі. А ў галіне найважнейшай—у галіне падаткавых спраў—ці-ж магчымы якія-колечы перамены на карысьць працоўных?!

Ускладаючы адказнасьць за палітыку гэтага ўраду—выразна буржуазнага—на партыю польскіх сацыялістаў, якія сваім імёнем толькі прыкрываюць запраўдны характар яго, прамоўца заяўляе, што толькі работніцка сялянскі ўрад здолее вывясьці Польшчу з перажыванага крызісу, толькі гэткі ўрад здолее адчыніць і дарогу да волі беларускаму ды ўкраінскаму народам.

Ад імя свайго клюбу пасол Валошын заяўляе, што клюб Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады будзе галасаваць проці ўраду п. Скшыньскага.

### Прамова дэп. Ярэміча (Бел. Пас. Клюб).

Прамову сваю дэп. Ярэміч пачынае гэткай заявай:

„Мы чулі ад калегі Брыля некаторыя закіды па адрасу Прэзыдэнта, які пры ўкладаньні складу габінэту не запрасіў нацыянальных меншасьцяў. Я павінен заявіць, што п. Прэзыдэнт Польскай Рэчыпаспалітай, як быў у Вільні, дык сказаў, што Польшча істнуе для палякоў,—і ён у гэтым пасьледавальны, дзеля гэтага нас і не запрашае. Дык мы пратэнсіі да яго за гэта ня маем“.

І гэты прамоўца нічога добрага для беларусаў ад новага ўраду не спадзяецца: „тое, што ў урадзе асталіся міністрамі п. Станіслаў Грабскі і п. Рачкевіч, сьведчыць, што адносіны ўраду да нас, беларусаў, будуць тыя самыя, бо ж трудна даць веры, каб у працягу аднаго тыдня гэтыя паны міністры маглі зрэфармавацца“.

Ахарактэрызаваўшы асьветную палітыку п. Грабскага, скіраваную выразна проці беларусаў, прамоўца даўжэй спыняецца на асобе міністра ўнутраных спраў, п. Рачкевіча.

Прамоўца адзначае, што ў часе свайго ўрадаваньня на беларускіх землях п. Рачкевіч патрапіў быць добрым і для польскае лявіцы і для правіцы— коштам беларусаў! Прамоўца апавядае, як ў 1920 годзе — пасьля дэкрэту п. Пілсудскага аб тварэньні пры польскай арміі беларускіх атрадаў— у падлягаўшым тады п. Рачкевічу Менскім вокрузе быў выданы тайны цыркуляр аб недапушчэньні вярбоўкі жаўнераў у гэныя атрады.... Пад уладай п. Рачкевіча вядзецца барацьба з усімі праявамі беларушчыны, дзеля чаго ўсякую беларускую грамадзкую працу абвяшчаюць „камунізмам“. Прамоўца робіць закід міністру, што той утрымлівае за ўрадавы грошы 3 ці 4 „лёяльных беларусаў“ (арганізацыю Паўлюкевіча!) дзеля паказу, а тымчасам сваей палітыкай робіць тое, што ў масах вытвараецца варожы да Польшчы настрой, і ўлада арыштоўвае сотні людзей у кожным павеце. Адначасна ні пры якім з папярэднікаў п. Рачкевіча на становішчы міністра ўнутраных спраў самавольства адміністрацыі не даходзіла такое меры, як цяпер. За прыклад гэтага можа служыць факт канфіскацыі камісарам на м. Вільню пасольскае інтэрпэляцыі.

Падаўшы цэлы рад дамаганьняў асьветнага і эканамічнага характару, прамоўца канчае сваю прамову дамаганьнем скасаваньня даразных судоў і спыненьня расстрэлаў у Заходняй Беларусі.

Клюб прамоўцы даверыя да ўраду п. Скшыньскага ня мае.

## Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Ваенным міністрам—ген. Жэліговскі.

Як ведама, за назначэньне ваеннага міністра амаль не ўзгарэлася ў Варшаве „міністэрская рэвалюцыя“...

Лявіца з Пілсудскім на чале пад „паўторнай перасьцярогай“ самога Маршалка, трэбавала скінуць Сікорскага, які сваімі „мерамі“ ня столькі папераджаў, як правакаваў бунт у арміі...

Правіца дамагалася, каб за ўсялякую цану быў пакінуты Сікорскі, — бо скінуць яго пасьля таго, як ён рашуча стаў на ахову дысцыпліны і парадку ў войску, у той мамэнт, калі яго былы, а можа і прышлы, але ня сучасны Галоўны Камандзір „заклікаў армію да бунту“.

Урэшце, як заўсёды ў Польшчы, знайшлі кампрамісную асобу, якая пайляпей яднае ў сабе, так сказаць,—правіцу з лявіцай, з іх, здавалася-бы, супярэчнымі дамаганьнямі.—Для падтрыманьня „ідэі дысцыпліны“ ў арміі і адначасна любага правіцы „скампрамітаваньня Пілсудскага“—назначаны ведамы... „бунтаўшчык“ проці былога Галоўнага Камандзіра Пілсудскага (—па яго-ж загаду!) нацыяналіст-пілсудчык—генарал Жэліговскі, тварэц апэрэткавай „Сярэдняй Літвы“...

Запраўдная-ж перамога правіцы ці лявіцы (Пілсудскага) пакажацца на тым, каго дадуць п. Жэліговскаму ў Шэфы Штабу.

### Гутарка міністра фінансаў з журналістамі.

Новы міністар фінансаў запрасіў прадстаўнікоў прэсы, каб заявіць ім, што міністар у сваей працы над аздараўленьнем польскіх фінансаў пакладае вялікія надзеі на... пер‘я і атрамант паноў журналістаў. Як перадаюць газэты, міністар літаральна заявіў, што ўся „апора (польскай) валюты грунтуецца на даверыі, „дык прэса, якая“ мае магчымасьць рэгуляваньня (праўдай, ці... няпраўдай) настрояў насяленьня“, можа адна толькі стабілізаваць гэтую валюту... „Трэба памятаць,—(казаў п. міністар—),што мы былі на шляху зьнішчэньня вынікаў працы і ахвяраў з боку ўсяго народу“... П. міністар дадаў, што тыя „дэзэртыры, якія ўцякаюць... ад польскай валюты (да здаровай...), падобны да тых, што падпілоўваюць той сук, на якім самі сідзяць“ (ці можа... вісяць, пане міністар?).

На нядэлікатнае запытаньне каго-сь з журналістаў, — а што зрабіў, ці мае зрабіць сам пан міністар для ратаваньня польскіх фінансаў, пан Зьдзеховскі адказаў, што ён зрабіў ужо... камітэт з 6 „надзвычайных дэлегатаў“ міністэрства падстаршынствам „ашчаднасьцёвага камісара“ пана Маскалеўскага. „Камітэт“ гэты... хутка пачне разглядаць бюджэты ваеннага і іншых міністэрстваў (у тым ліку—і асьветы),—ці ня можна будзе там чаго ўрэзаць...

Але-ж гэты п. Москалеўскі ўжо „працуе“, здаецца, яшчэ ад часоў Хіена-Пяста?!

Адказам на „канфэрэнцыю“ пана міністра з прадстаўнікамі прэсы і яго „добрай рады“—„тварыць настроі ў насяленьні“—зьявіўся ўпадак злотага яшчэ на 20 працантаў.

### Курс даляра ў Варшаве.

„Вил. Утро“ падае, што 28 лістапада курс злотага ў Варшаве быў 8.50...

### Крызіс ці катастрофа прамысловасьці?

З усей наагул сьмяротна хварэючай прамысловасьці ў Польшчы асаблівы крызіс, блізкі да катастрофы, перажывае Лодзкі раён. У Лодзі каля 40.000 безработных.

Ня лепшы стан і ў нашым Беластоцкім фабрычным раёне, адзіным на тэрыторыі Заходняй Беларусі, — дзе працуе толькі 10 прац. (дзесятая частка) даваеннай колькасьці работнікаў.

Трохі ў лепшым стане знаходзіцца раён Бельск-Бяла, бо тут, здаецца, немцы завялі лепшыя машыны, але і тут—20 прац. безработных!

Дый на каго будуць працаваць фабрыкі? — Унутраны рынак, перадусім усё сялянства Польшчы,—забіты падаткамі. Вонкавы дзякуе за дарагія, але... дрэнныя вырабы польскай прамысловасьці. „Вось тут і жыві“,—як казаў Купала.

### Безрабоцьце расьце.

Паводле даных Галоўнага Статыст. Ураду лічба безработных у Польшчы павялічылася ізноў у працягу тыдня (ад 7-га да 14-га лістапада) на 12.881 душ і дайшла ўжо на 14/XI да 231.764 душ. Гэтак было 2 тыдні таму.

Калі лічыць узрост гэтага найстрашнейшага для працоўных ліха гэткім самым і ў працягу апошніх тыдняў, дык армія працаўнікоў бяз працы ў Польшчы падыходзіць ужо да 330 тысячаў.

Але гэта лічба толькі афіцыяльна зарэгістраваных безработных. А колькі работнікаў, што працуюць па 2—3 гадзіны? А сколькі эмігрантаў, што вывезены ці выехалі з краю на чужыну, пераважна ў Францыю? Дый то гэта ўсё пераважна, амаль ня выключна—безработныя места. А сколькі запраўды-ж мільёнаў безработных на вёсцы,—інтэлігенцыі дый папросту батракоў і хлебаробаў, якія „стабілізатарамі абшарніцтва“ зусім пазбаўлены варштатаў працы—зямлі?

### Новы жыдоўскі банк у Польшчы.

З Прагі паведамляюць, што ў хуткім часе ў Варшаве адчыніцца новы вялікі жыдоўска-амэрыканскі банк, які будзе мець аддзелы ўва ўсіх буйнейшых местах краю.

Толькі што жыдоўска-італьянскі Банк Тэпліца купіў вялікі, але банкрутуюты ў польскіх руках „Банк для гандлю і прамысловасьці“ ў Варшаве. Цяпер—дру-

## Адказы мін. Рачкевіча на беларускія інтэрпэляцыі.

На інтэрпэляцыі беларускіх паслоў ў справе бяспрыкладных надужыцьцяў мясцовай улады даў адказы міністар унутран. спраў новага ўраду, п. Рачкевіч.

На інтэрпэляцыю ў справе арыштаваньня ксяндза-беларуса Гадлеўскага і „бунту" ў Жодзішках—мін. Рачкевіч адказаў, што кс. Гадлеўскі... заклікаў да бунту, (?) дык і пераданы пракурору, а паліцыя дзеяла „бяз ніякага закіду",—бо, калі яе ўмяшацельства аказалася бяссільным, тады ваенныя ўлады... выставілі кулямёт, што зрабіла вельмі добры эфэкт...

У справе katаваньня вучняў Віленскай Беларускай Гімназіі міністар адказаў, што дазнаньне, зробленае дэлегатурай, перадана пракуратуры, якая, пасьля сьледзтва, арыштавала вінаватых паліцыянтаў і пацягнула іх да судовай адказнасьці. Што датычыць паступкаў урадоўца дэлегатуры п. Сіповіча, дык дазнаньне аб ім было, па просьбе Дэлегата, праверана (кім?) і прызнана (кім?), што ён „дзеяў няўдала, але злой волі ня меў"... Дык яму зроблена „ўвага"...

Дзеля ўсяго гэтага **міністар Рачкевіч**, ня бачучы ў паступках **Дэлегата Ураду п. Рачкевіча** ніякага нарушэньня закону, не знаходзіць патрэбным рабіць адносна да яго якіх-сь распараджэньняў..

Найцікаўней у-ва ўсім гэтым, што п. міністар Рачкевіч і п. Дэлегат Рачкевіч — ня толькі аднафамільцы, але—адна і тая самая асоба... Дык дзіва, што—судзьдзя ў сваей уласнай справе — п. Рачкевіч—не знайшоў у сваіх учынках віны і не налажыў на сябе самога ніякай кары...

„Новы „лёкарнскі дух" павеяў у Польшчы—з новым урадам Скшыньскага",—слушна захопліваюцца прэсавыя скарбаеды ў Польшчы...

## Справа Базыльянскіх муроу перад Соймам.

Падаем ніжэй даслоўны перадрук інтэрпэляцыі беларускіх паслоў да п. Міністра ўнутраных спраў—„у справе бяспраўнага заняцьця ўладаю будынкаў, якія зьяўляюцца ўласнасьцяй праваслаўнага Сьв.-Траецкага манастыра ў Вільні".

„У Вільні пры Вострабрамскай вул. № 9 і Конскай № 18 знаходзіцца ўласнасьць праваслаўнага Сьв.-Траецкага манастыра.

Уласнасьцяй гэтай зьяўляецца праваслаўны манастыр, пабудаваны з дазволу князя Альгерда, выданага яго праваслаўнай жонцы Марылі ў XIV веку, на месцы мучаніцтва сьвятых праваслаўнай царквы: Антона, Іоана і Астафія і манастыр, спачатку драўляны, быў адбудаваны, ужо як мураваны, праваслаўным князем Канстанцінам Астрожскім у XVI веку. Права на адбудову гэтага манастыра пачаткова было дадзена князю К. Астрожскаму каралём, як нагрaда за пабеду князя над маскоўскім войскам пад Оршаю. Па прыняцьці ўніі ў Берасьці (ў 1596 г.) у 1609 годзе манастыр гэты перайшоў на ўласнасьць уніяцкага закону Базыльянаў. У 1839 годзе манастыр гэты зноў перайшоў на ўласнасьць праваслаўнае царквы, і да 1845 году ў гэтым манастыры, згодна з распараджэньнем улады праваслаўнае царквы, знаходзіцца праваслаўная духоўная сэмінарыя, а ад 1919 году, у паразуменьні з гэтаю-ж уладаю, месьцяцца: беларуская гімназія, беларускі прытулак, беларускі камітэт помачы ахвярам вайны, праваслаўныя манашкі з двох манастыроў і іншыя.

Пасьля заняцьця Вільні польскаю ўладаю Дэлегат Ураду на Віленшчыну п. В. Роман бяспраўна сваею пастановаю з 26-га чэрвеня 1923 году перадаў гэтую ўласнасьць дзяржаве, быццам апіраючыся на дэкрэт Галоўнакамандуючага Войскам Сярэдняй Літвы пад № 349. Праваслаўная кансісторыя апратэставала гэтую пастанову, скіраваўшы справу ў суд. Акружны Суд у Вільні сваім прыгаворам з 24-га траўня — 2-га чэрвеня 1925 г., справы № С 193/1924 г., паклікаючыся на тое: „што спорная ўласнасьць не падлягала канфіскацыі расейскаю ўладаю, а як з часоў уніяцкіх, так і потым станавіла ўласнасьць Сьв.-Траецкага манастыра ў Вільні, які па скасаваньні ўніі перайшоў з уніяцкага на праваслаўны, і затым Дэлегат Ураду няправільна да спорнай нярухомасьці застасаваў вышэй успомнены дэкрэт і спорную нярухомасьць забраў у сваё валаданьне, што дзеля гэтага і просьба манастыра вярнуць яму ў валаданьне спорную нярухомасьць павінна быць прызнана слушнай", пастанавіў: „Прызнаць праваслаўнаму Сьв.-Траецкаму манастыру ў Вільні права ўласнасьці на нярухомасьць, паложаную ў Вільні пры Конскай вул. № 18, узяць успомненую нярухомасьць спад валаданьня Скарбу Дзяржавы ў асобе Дэлегатуры Ураду на Віленшчыну і аддаць яе ў валаданьне праваслаўнаму Сьв.-Траецкаму манастыру ў Вільні, ды засудзіць на карысьць Праваслаўнай Кансісторыі ў Вільні ад Скарбу Дзяржавы 200 зл. коштаў абароны".

Ня гледзячы на гэты прыгавор суда, польская ўлада ўсялякімі шляхамі стараецца забраць у сваё валаданьне гэтыя манастырскія муры, выкідаючы з іх беларускія і праваслаўрыя ўстановы.

Гэтак, у 7 гадзіны раніцы 22-га кастрычніка сёл. году, калі беларуская пачаткавая школа № 33, якая займала памяшчэньне беларускага прытулку К-ту Помачы Ахвярам Вайны, мелася перайсьці ў другое мейсца, у Сьв.-Траецкі манастыр зьявіўся п. Студніцкі з паліцыяй, каб заняць пад архіў памяшчэньне Т-ва Помачы Ахвярам Вайны.

Апіраючыся на паперу № 21021 Куратарыуму Віленскага Школьнага Вокругу да япіскапа Антонія, пазваляючую яму заняць памяшчэньне пасьля школы, і ўпаразуменьні з Старшынёю Белар. К-ту Помачы Ахвяр. Вайны п. Астроўскім, да якога згодна з умоваю памяшчэньне належыць да 16/VIII 1926 г., праваслаўная духоўн. сэмінарыя заняла гэтае памяшчэньне, зьмяшчаючы там інтэрнат.

Ня гледзячы на пратэст з боку Старшыні К-ту, а таксама і япіскапа Антонія, які ўраз-жа выехаў да Дэлегата Ураду,—паліцыя на падставе загаду Камісара Ураду п. Вімбара гвалтам выкінула ўсе рэчы, выносячы ложкі разам з ляжаўшымі на іх сэмінарыстамі. Сэмінарыстаў, якія не хацелі дабравольна выйсьці з свайго памяшчэньня, і асоб з інспэкцыі сэмінарыі паліцыя сілком выпхнула ў калідор.

Такім чынам было занята памяшчэньне, у якім 5 гадоў мясьціўся беларускі прытулак, ды якое толькі ад 8 да 2 гадзіны аддавана было для карыстаньня пачаткавай школе. Паліцыя выкінула з прытулку ўсіх дзяцей, кіраўніцтва прытулку і навет сэнатара Багдановіча, які ў той дзень дзяжурыў у прытулку. Дзеці былі змушаны разьмясьціцца ў халодным калідоры, бо памяшчэньне апячатана і пастаўлена паліцэйская варта.

Цяпер паліцыянт з ружжом пільнуе апячатанае памяшчэньне, і дзеля таго, што памяшчэньне гэтае знаходзіцца ў беспасрэднім суседзтве з праваслаўнай сэмінарыяй, паліцыянт у часе лекцыяў сядзіць у клясе і, ведама, перашкаджае нармальнаму вядзеньню вучэньня.

У лучнасьці з гэтым новым гвалтам, дакананым віленскаю ўладаю, былі высланы ў свой час наступныя тэлеграмы:

Міністру Справядлівасьці
**ў Варшаве**

Копія Міністру Унутраных Спраў. Копія дэпутату Тарашкевічу, Сойм.

22-га кастрычніка Дырэкцыя Публічных Работ у Вільні пры ўчасьці паліцыі прымусам выкінула з памяшчэньня Беларускага Прытулку, (Вострабрамся 9), дзяцей, адміністрацыю і ўсе рэчы з мэтай аддачы сказанага памяшчэньня кіраўніку Архіву Студніцкаму. Выпаўняючы абавязкі дзяжурнага сябра Беларускага Т-ва помачы ахвярам вайны сэнатар Багдановіч такжа быў выдалены прымусам. Памяшчэньне запячатана. Дзеці месьцяцца на сьцюдзёным калідоры.

Пратэстуючы проці пагвалчэньня права адміністрацыйнай уладай, зварачаюся да пана Міністра з просьбай даць загад, каб ураз было вернена паруханае ўладаньне.

(—) *Р. Астроўскі,*
Старшыня Камітэту Бел. Т-ва пом. ахв. вайны.

Сынод Праваслаўнае Царквы Зыгмунтоўская 13,
**Варшава—Прага.**

Копіі: Міністру Рэлігійных Вызнаньняў, Міністру Унутраных Спраў.

Выпаўняючы даручэньне Куратара Віленскага Школьнага Вокругу № 21021, я загадаў заняць на патрэбы Сэмінарыі звольненае беларускай школай памяшчэньне ў гмаху Сэмінарыі пры Вострабрамскай вул. № 9. Зьмешчаная мною ў сказаным памяшчэньні часьць інтэрнату Сэмінарыі сягоньня сілай выкінута паліцыяй панствовай з ужыцьцём гвалту над асобамі вучняў і інспэкцыі Сэмінарыі. Памяшчэньне запячатана, пастаўлена паліцэйская варта.

Ня гледзячы на маю просьбу прыпыніць гэты акт да паразуменьня з цэнтральнай уладай, паліцыя ў часе маей інтэрвэнцыі ў Дэлегата Ураду ўчыніла сказанае пагвалчэньне права.

Паведамляючы аб вышэйшым, прашу Сынод Праваслаўнае Царквы аб інтэрвэнцыю ў рашаючых чыньнікаў Ураду і аб прысылку загаду аб аддачы ўраз-жа сказанага памяшчэньня законнаму ўласьніку яго — Праваслаўнай Царкве—дзеля патрэб Сэмінарыі.

(—) *Антоній,*
Япіскап, Рэктар Сэмінарыі.

Дзеля вышэйсказанага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. Міністра:

1) Ці маніцца ён застасаваць прыгавор Акружнога Суда аб прызнаньні права ўласьнасьці Сьв.-Траецкаму манастыру, знаходзячамуся пры Конскай вул. № 18?

2) Ці маніцца забараніць падлягаючым органам мяшацца да ўпраўленьня маемасьцяй, належачай да праваслаўнай царквы?

3) Ці маніцца ўраз-жа зьняць пячаці з гэтага памяшчэньня і аддаць яго ўласьніку ці праўнаму кватаранту і выкінуць паліцэйскую варту, якая перашкаджае нармальна вясьці заняткі ў Сэмінарыі?.

Варшава, 11-га лістапада 1925 г.

---

гі, яшчэ вялікшы. Вось, і пачалося тое „заваяваньне Польшчы жыдоўскім капіталам", якога так баяліся польскія нацыяналісты. Што-ж,—калі самі ўмелі толькі... пазычаць у банках на панскае жыцьцё, дык і праелі свае банкі, а цяпер будуць пазычаць у жыдоўскіх. Але, ведама, тады ўжо трэба будзе слухаць жыдоў.

### Новы канфлікт Гданску з Польшчай.

Гданск вельмі занепакоены новай прэтэнсіяй Польшчы на агульны ваенны кантроль над Гданскім портам. Польскі ўрад быццам хоча ўстанавіць кардон у порце, на якім павінны будуць правярацца ўсе транспарты з амуніцыяй, што йдуць праз порт.

У парляманьце гэтая вестка выклікала страшэннае абурэньне і рад інтэрпэляцыяў. Прэм'ер Сам заявіў, што Сэнат (урад) ужо падаў проці гэтага пратэст у Лігу Народаў, і сам Сам паедзе асабіста на блізкую сэсію Рады Лігі.

# Заграніцай.

### Лёкарнскія трактаты ў нямецкім парляманьце.

У Рэйхстагу ў часе дыскусіі над Лёкарнскімі трактатамі канцлер Лютэр сказаў прамову, даводзячы карыснасьць трактатаў для Нямеччыны. Ніякай небясьпекі для Нямеччыны трактаты не прадстаўляюць: ні яны, ні якая іншая ўстанова ў сьвеце ня могуць зрабіць з Нямеччыны нейкую прыладу дзеля вайны проці якой іншай дзяржавы (адказ на закіды радавага ўраду). Гэта-ж немагчыма навет хаця-бы з прычыны поўнага разбраеньня Нямеччыны.

Трактаты бароняць ад Францыі лінію Рэйну. Цяпер галоўнай мэтай сусьветнае працы, а нямецкае перадусімі,—зьяўляецца мір і разбраеньне, што Нямеччына можа зрабіць, увайшоўшы ў Лігу Народаў. Заходні пакт ахоўвае таксама і Нямеччыну, як Францыю. Вэрсальскі Трактат няхай сабе будзе „нятыкальным", але новым пактам ён ня толькі не атрымаў новага—дабравольнага — подпісу з боку Нямеччыны, але наадварот: новыя пакты даюць усе магчымасьці—на яго-ж падставе—тлумачыць яго ў міжнародавых судох, калі якія з яго пастановаў — за выключэньнем гранічных — выклікаюць споркі і спрэчкі. Усходнія пакты Нямеччыны з Польшчай і Чэха-Славакіяй — зусім таго-ж зьместу, як заходнія, „розьніца толькі ў тым, што на ўсходзе няма мовы аб гарантаваньні нашых усходніх граніцаў"... Нямеччына ня мае ані жаданьня, ані сіл весьці вайну на Усходзе, але хоча „мірна разьвіваць свае адносіны тут", што зусім магчыма на падставе Вэрсальскага Статуту Лігі Народаў і Лёкарнскіх Трактатаў. „Новыя Трактаты дзеля таго і на ўсходзе паляпшаюць справу міру, хаця ня ўхіляюць зусім усялякай магчымасьці вайны".

У канцы прамовы канцлер дадаў, што, праўду кажучы, усе гэтыя трактаты ня вельмі зьмяняюць пануючыя ў Эўропе ненармальныя адносіны, але якраз на іх груньце Нямеччыне будзе лягчэй працаваць дзеля рашучай зьмены іх і—стварэньня варункаў запраўднага міру...

### Зьезд Радаў.

15 сьнежня ў Маскве мае адбыцца Агульны Зьезд Радаў.

### Перапалох у Чэха-Славакіі.

У сувязі з спрэчкай між парляманцкімі клюбамі аб складзе і праграме будучага ўраду (галоўная прычына спрэчкі—справа фармальнага прызнаньня СССР) —у чэшскім Сойме была пушчана чутка, быццам сацыялісты з камуністамі згаварыліся і твораць самі ўрад...

Гэтая чутка выклікала страшэнны перапалох, ды ня столькі сярод буржуазных партыяў самай Чэха-Славакіі, сколькі... сярод акрэдытаваных пры чэха-славацкім урадзе паслоў замежных дзяржаў! І вось гэтыя замежныя дыплёматы, (пэўна-ж з англійскім наперадзе і з румынскім у хвасьце!) зрабілі „крокі", каб папярэдзіць небясьпеку...

Буржуазныя газэты пішуць, што гэтая „качка" (ілжывая вестка) пушчана нямецка-вэнгерскай меншасьцяй. Аднак, можна думаць, што сацыялісты, настаіваючы на прызнаньні СССР, папросту папужалі краёвых буржуяў стварэньнем бяз іх ураду з камуністамі, калі адкінуць гэтае дамаганьне.

### Новы французскі габінэт.

Брыяну ўдалося зложыць новы габінэт:

На чале Брыян, ён-жа і міністар замежных спраў, мін. фінансаў—Люшэр, ваенны міністар—Пэнлевэ. Апрача таго, міністрамі ўвайшлі—дэ-Монзі, Лейг, Шотан і інш.

Партыйны склад габінэту гэткі: 4 сэнатары з дэмакратычнай лявіцы і 17 паслоў (1 левы рэспубліканец, 6 радыкалаў, 5 радыкал-сацыялістаў, 4 сацыял-рэспубліканцы і 1 беспартыйны).

Як бачым, у склад ураду ізноў не ўвайшлі сацыялісты, якія паставілі дамаганьне—аддаць ім палову ўсіх партфэляў.

### Перагаворы французаў з друзамі.

Англійскі карэспандэнт з Сірыі паведамляе, быццам францускі высокі камісар у Сірыі, сэнатар Жувэнэль, вядзе ўжо афіцыяльна перагаворы з прадстаўніком паўстаўшых друзаў.

### Турцыя рыхтуецца да вайны з Англіяй.

У Турцыі—ваенная гарачка падрыхтоўкі вайны з Англіяй—на выпадак некарыснае для Турцыі пастановы Рады Лігі Народаў у справе Мосулю. З Эўропы адусюль вязуць у Малую Азію амуніцыю, купленую Турцыяй. Некаторыя газэты адкрыта пагражаюць Англіі вайной.

### Выкрыцьце вялікай змовы ў Індыі.

У Індыі англійская паліцыя выкрыла вялізарную, ахопліваючую можа ўвесь край, змову проці англійскага панаваньня.

Калі ўжо „пачалося" запраўды ў Ягіпце, дык ня можа быць бяз „дывэрсіі" ў Індыі!

### Аружнае ўмяшацельства Японіі ў Кітаі.

Японскі ўрад страшэнна занепакоіўся паражэньнем магутнага дагэтуль дыктатара Манджурыі ген. Чанг-Тсо-Ліна, які фактычна аддаў усю Манджурыю пад уладу Японіі... Нацыянальныя арміі генаралаў Ву і Фэнга, аб'яднаўшыся з збун-

таваным проці Чанга яго генаралам Куе-Сунгам, пагражаючы заняцьцем усей Манджурыі і—канцом японскага там панаваньня!

Дык, каб ратаваць (а можа—і тапіць да канца!) сваю справу, Японія паслала амаль ня ўвесь свой флёт да берагоў Манджурыі, а ў апошні мамэнт пастанавіла навет адкрыта — аружна ўмяшацца ў вайну Чанга з Фэнгам, паслаўшы на падмогу першаму значныя ваенныя сілы...

Ведама, што ген. Фэнг падтрымліваецца, як павадзір усяго вызваляючагася Кітаю, — урадам СССР. Ведама і тое, што паміж СССР і Японіяй існуе паразуменьне аб супольнай дзейнасьці ў Кітаі—проці эўрапэйцаў. Але ці будзе СССР глядзець спакойна на рашучую зьмену фронту Японіі, пачаўшай іграць у англійскую дудку, гэта — пытаньне. Дык трэба спадзявацца мо' вялікіх здарэньняў на Далёкім Усходзе. Бясспрэчна толькі тое, што гэткае паступаньне Японіі аканчальна пазбавіць яе даверыя ў вачох кітайскага народу і—наадварот—узмацуе крэдыт і ўплывы СССР у Кітаі...

Як сцьвярджаюць заграничныя газэты, ваенная рэвалюцыя ў Манджурыі — выклікана прапагандай бальшавікоў.

# ХРОНІКА.

**Справа рэд. Туронка.** 30 лістапада віленскі акружны суд разглядаў ажно сем прэсавых спраў рэдактара часопісі „Крыніца“ Туронка, абвінавачанага з арт. 129, 263 і 298 К. К. за зьмешчаныя ў часопісі стацьці. Бараніў грам. Туронка адвакат Б. Родзевіч.

На пачатку расправы мела месца характэрнае здарэньне. Сьведкі-беларусы — пас. Яраміч, дырэктар Астроўскі і інш.—патрэбавалі, каб суд прывёў іх да прысягі ў роднай ім беларускай мове. Пасьля 15-мінутнае нарады суд ім у гэтым адмовіў. З прычыны нязгодлівасьці іх прысягаць папольску суд звольніў усіх гэтых сьведкаў (у тым ліку некалькі сялян) ад царкоўнае прысягі, узяўшы толькі слова ў іх, што будуць казаць праўду.

У выніку расправы суд адкінуў абвінавачаньне паводле 129 арт., а па другім засудзіў рэд. Туронка агулам на 2 месяцы вастрогу, зачыніўшы часопіс „Krynica“ назаўсёды.

Рэд. Туронак падае апэляцыйную скаргу на гэты прысуд.

**Яшчэ канфіскацыя.** Камісар ураду на м. Вільню сканфіскаваў апошні (10) нумар часопісі „Biełaruskaja Krynica“.

**Новы прэсавы „аддзел у Дэлегатуры“.** Віленская Дэлегатура зрабіла новы „Аддзел Прэсы“ з п. Пятровічам на чале. Аддзел будзе „стаяць у блізкім кантакце з прэсай даваць прэсе „інфармацыі“ і... падлягаць Аддзелу Бясьпечнасьці (Паліцыі).

Гэткім чынам прэса з свайго боку мае „стануць у блізкі кантакт“ з паліцыяй. Няўжо-ж дасюлетшяга было мала?...

**Водгукі з Лукішах.** Асобы, якія меліпчасьце пакінуць гасьцінныя муры Лукішскага вастрогу, апавядаюць, што пасаджаныя тамака „панове ўжэндніцы“ карыстаюцца прывілеямі „пачэсных гасьцей“. Паміж іншым, іх пробавалі садзіць разам з палітычнымі вязьнямі, але тыя адмовіліся ад гэткай „мілай кумпаніі“.....

**Беларускі Календар на 1926 г.** Выйшаў з друку Беларускі Календар (кніжка) на 1926 год. З прычыны таго, што адрыўны календар на 1926 год сканфіскаваны ўладай, беларусы павінны хаця гэтым новым выданьнем заспакоіць сваю патрэбу календара ў роднай мове.

Календар мае пекны вонкавы выгляд і багаты зьмест.

**Танная прадажа беларускіх кніжак.** Беларуская кнігарня ў Вільні (Завальная вул. 7) ладзіць танную прадажу кніжак, якія мае на складзе, у часе ад 1-га да 15-га сьнежня. Уступка — да 50 проц. з сталых цэн.

Усе беларусы павінны скарыстаць з гэтага здарэньня і перад сьвятам зрабіць сабе цэнны падарунак у пастаці беларускіх мастацкіх літэратурных твораў, ці папулярна-навуковых выданьняў.

Асабліва павінны з гэтага скарыстаць арганізатары вясковых бібліатэчак.

**Памятнік літоўскаму мастаку-кампазытару.** Літоўскае грамадзянства маніцца паставіць ў Вільні памятнік вялікаму літоўскаму мастаку (кампазытару і маляру) Чурлёнісу.

**Пэпэсаўскі зьезд сельска-гаспадарчых работнікаў.** 29 лістапада меў адбыцца ў Вільні скліканы пэпэсамі зьезд саюзу батракоў Віленшчыны.

**Піліп Марозаў — біскупам!...** Ведама ўсім, што кожны шляхотны ўчынак, калі нават ён дакананы не-палякам, а нават—расейцам, гойна нагараджаецца ў Польшчы... Гэтым-ж так моцна заўсёды была і ёсьць Польшча..

Дык вось „Echo Warsz.“ паведамляе, што знаны ўсім добра ў Вільні archimandryta Filip Morożów стараньнямі, відаць, самога „канкардаваўшага“ з папай Ст. Грабскага будзе зроблены „першым біскупам каталіцкім усходняга абраду“ і пасаджаны на „місіянерскую“ кафэдру у Луцку на Валыншчыне... Як ведама, дагэтуль п. Морозов атрымліваў за свае „манашскія цноты“ і іншыя „заслугі“ перад польскай дзяржаўнасьцяй ад таго-ж мін. Грабскага нагароды пераважна — гатоўкай (колькі разоў па 1000 злотых, якія, як нам казалі, зусім ня былі шляхотным манахам перадаваны ў супольную касу манастыра, як таго вымагае „Статут Васіля Вялікага“...)... Цяпер да належнай ацэны „заслугаў“ п. Морозова закліканы, так сказаць, апрача польскага Міністэрства Рэлігіяў, і сам Папа, які плаціць ужо—„ангельскімі чынамі“...

**Чароднае зладейства.** „Słowo“ наказуе, што апошнімі днямі выявілася ўжо сёмае зладзейства, учыненае на тэрыторыі Віленшчыны дзяржаўным урадоўцам. Іменна: у часе рэвізіі ў Докшыцах на пошце выкрыта растрата 1.000 злотых скарбовых грошы. Кіраўнік пошты пан Анджэйчык пасаджаны за краты....

# З жыцьця Горадні.

**Палітычны працэс „33“.** 23 лістапада ў горадзенскім акружным судзе распачаўся палітычны працэс 33 чалавек: Рукшы К., Юткоўскага, Казлоўскага, Галынскага, Пружанскага, Добкі Леў, Стамблера, Фівка, Эйбушыца і інш., абвінавачаных з арт. 102 К. К.

На суд не зьявіліся абвінавачаныя, якія былі на волі: Торкель Бэньямін, Голынскі Ёсель, Кунцэвіч Давід, Торкель Нёмка, Міхалоўская-Лігавец Надзея, Ахун, Фурье М. і Лазоўскі Эля.

Проці абвінавачанай Скабронік Рохлі абвіненьне адкінута.

Таксама на суд не зьявіліся сьведкі абвінавачаньня і некаторыя сьведкі з боку абароны.

Паміж іншым не зьявіўся сьведка Янкель Копель, які быў вывядоўцай у Крынках, Горадзенскага пав., і зьяўляецца амаль што не галоўным сьведкаю абвінавачаньня. Але-ж выясьнілася, што гэны знамяніты сьведка-вывядоўца прыцягнуты да судовай адказнасьці з арт. 615, пасьля чаго быў звольнены з вастрогу пад залог і ўцёк у Аргентыну.

Падпракурор Дэссін прасіў адлажыць справу.

Абарона таксама згадзілася на адлажэньне справы, аднак прасіла аб звальненьне пад залог некаторых з абвінавачаных.

Суд пасьля нарады пастанавіў: просьбу абароны аб звальненьні пад залог абвінавачаных адкінуць; справу вызначыць на 21 студзеня 1926 г.

**За працу—пад арышт.** 14 лістапада рабочыя Гурніцкі і Ялошэўскі, якія працуюць на Фалюшы ў Горадні дамагаліся сваіх грошай за працу ад фірмы Шыдлоўскага. Замест грошай за сваю мазолістую працу былі арыштаваны паліцыяй I камісарыяту, дзе сьпісалі пратакол, потым адправілі іх у III камісарыят паліцыі, дзе ў 10 гадз. увечары былі звольнены.

Вось і маеш рабочы за сваю мазолістую працу.

**Пры працы.** 16 лістапада рабочыя на пастройцы „Фалюш“ у Горадні атрымовывалі грошы за працу і вось адзін рабочы-муляр Ментус захацеў сесьці на мур і, спатыкнуўшыся, ўпаў і вельмі моцна пабіўся. Усё гэта дзякуючы таму, што няма сьвятла, а гэта сталася ўвечары. Характарна, што на ўсей пастройцы „Фалюш“ няма сьвятла, дык ня дзіва, што мог здарыцца гэтакі выпадак. Работніка Ментуса атправілі ў бальніцу.

**Што рабіць?** Ужо з кастрычніка сёлетняга году ў Жыдомлі, Горадзенскага пав. няма чумусь ніводнай белар. газэты; што гэтаму за прычыны дык няма ведама. Рэдакцыя нас інфармуе, што газэта сыстэматычна нам высылаецца. У Жыдомлі раней заўсёды атрымлівалі тры-чатыры нумары беларускай газэты, а цяпер няма.

Вельмі просіма рэдакцыю „Беларуская Ніва“ і п. п. паслоў з клюбу Сялянска Работніцкае Грамады прыняць крокі, каб мы ня былі пазбаўлены беларускага слова. Мо' гэтаму перашкаджае на пошце сэкрэтар нашай Жыдамлянскай гміны, бо вельмі ня любіць ён беларускіх газэт?

**Нёман.**

# Карэспандэнцыі.

## Арышты.

(в. Чамяры, з Слонімшчыны).

Як ведама, арышты ў Заходняй Беларусі зьяўляюцца звычайнаю праяваю, так сказаць, грамадзкага жыцьця. Арыштамі ўлада, відаць, хоча забіць усялякі рух на т. зв. „Крэсах“ як нацыянальны, так і культурны. Арыштоўваюць вельмі часта людзей зусім нявінна, але толькі абы тэрарызаваць.

Гэтак у нас нядаўна сталіся гэтакія арышты: У в. Чамяры арыштавалі 16 асоб. З ліку арыштаваных 14 былі былі звольнены праз дзён 10, а двох сядзелі ажно па сем тыдняў і пусьцілі іх пад залог усяе маемасьці—20./X. Прычына арышту—нібы падвышка гадоў, каб ня йсьці да войска; дык былі заарыштаваны і тыя, хто нібы—падвышаў гады, і сьведкі іх і солтыс.

5./X. з вёскі Чамяры заарыштавалі жыхара Якава Пракапчука і пасадзілі ў вастрог у Слоніме. Прычыны—нікому не вядомы. Пракапчуку каля 60 гадоў і ўся вёска (ажно 55 асоб) сцьвярдзіла сваімі подпісамі прыгавор, што Пракапчук жыў дома ціха, палітыкай не займаўся, карыстаўся заўсёды чэсьцьцю справядлівага жыхара грамады і г. д. Подпісы людзей і справядлівасьць сказанага ў заяве—пратакопе сцьвярдзіў пячаткаю і сваім подпісам грамадзкі солтыс. Пратакол і заява—просьба пераданы ў канцылярыю пана Пракурора—аднак-жа вёсцы ня вераць і арыштаваны сядзіць сабе ў вастрозе. Дык што-ж рабіць яшчэ, каб паверылі і згадзіліся з прозьбай цэлай вёскі?!.

1./XI. стрэлам з ружжа хтось на сьмерць забіў лясьнічага Какошчынскага лясьніцтва N. Чамерскай гм. Слонімскага пав. Кажуць, што забіты вельмі добры быў да народу, і адно дрэнна жыў з „rodziną“.

Ня гледзячы на гэта, заарыштавана многа асоб з вёсак Саленікі, Какожчыцы, Шулякі і інш., на каго адно былі зроблены нябошчыкам тыя ці іншыя пратаколы. Навет вельмі блізкія людзі да нябошчыка кажуць, што справа тут якаясьць іншая, аднак-жа за ўсё мусіць цярпець першым сярмяжнік—беларус.

**Чупрыновіч.**

## Змаганьне за родную школу.

(в. Чамяры, Слонімскага пав.).

У свой час вёска Чамяры злажыла 63 дэкларацыі на 81 вучняў і падала да павятовага шк. Інспэктара. За пасьведчаньне дэкларацыяў заплацілі гміне ажно 31 зл 50 гр.; праз нейкі час усіх дэклярантаў вызваў да сябе ў канцылярыю шк. Інспэктар—Кажан і дамагаўся зрачыся роднай школы, але дэкляранты стаялі на сваём. Тады была вывешана аб'ява, каб да 20./VI. злажылі заявы, хто хоча школы польскай; аднак з школьнага абводу ніводнай заявы не падалі, і ў канцы канцоў цяпер маюць... тую-ж польскую школу з польскай „навучыцелькай“!.. І старыя і малыя плачуць моўчкі, каб мець родную школу, але нічога зрабіць ня могуць.

Таварыства Беларускай Школы ў Радашкавічах падало заяву да пана Куратара шк. вокругу ў Беластоку, каб далі канцэсію (права) адчыніць у Чамярох прыватную беларускую школу, але да гэтага часу ад 20./V. г. г. ніякіх чутак нямашака. Відаць, зноў дзеткам замест роднай школы прыдзецца праз цэлую зіму ганяць сабак па вуліцы. А ці адна зімачка ўжо прапала?

**Чупрыновіч.**

# Дамагайцеся роднае школы!

**ГРАМАДЗЯНЕ!** У вясну да 31 сакавіка і да 21 красавіка бягучага году, на падставе закону аб школьніцтве 31. VII. 1924 года і распараджэньня Міністра Асьветы ад 7./I. 1925 г. беларусы склалі школьным інспэктарам дэкларацыяў аб жаданьні беларускай школы больш як на 400 школ.

Шмат было перашкодаў у выпаўненьні бацькаўскіх і грамадзкіх абавязкаў: то войт не зацьвярджаў подпісаў, то паліцыя канфіскавала дэкларацыі, то інспэктар вымагаў мэтрыкі і г. д. Шмат бацькоў не маглі ў вызначаны кароткі тэрмін скласьці інспэктару дэкларацыяў. А ў тых вёсках, з якіх і ў тэрмін былі складзены дэкларацыі, беларускія школы пакуль што яшчэ не адчынены, або ад куратара праз інспэктара прышло паведамленьне, што дэкларацыі былі складзены неправідлова і такім чынам застаецца чыста польская школа.

Вось-жа, ня гледзячы на розныя перашкоды і адмовы школьнай улады, беларусы павінны дамагацца сваей роднай школы для сваіх дзетак, а для гэтага павінны скарыстаць тэрмін да 31-га сьнежня (декабря) гэтага году і скласьці дэкларацыі аб жаданьні беларускай школы, якую ўлада па закону павінна будзе адчыніць ужо з восені 1926 года.

Парадак зацьверджаньня подпісаў бацькоў ва дэкларацыях і падачы інспэктару той самы, што быў і ў вясну.

Інструкцыі і дэкларацыі можна выпісваць:

1) З Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады— Вільня, Віленская вул. № 12;

2) З Радашкаўскага Т-ва Беларускай Школы — м. Радашкавічы, Вялейскага пав.;

3) З Навагрaдзкага Т-ва Беларускай Школы — м. Навагрaдак, Карэліцкая вул. № 23.

Паўнамоцнікі! Прысылайце ў Цэнтральн. Школьную Раду копіі сьпісаў дэклярантаў, якія ўжо склалі інспэктару дэкларацыі, ці то ў вясну ці цяпер у восені адказы інспэктароў у справе беларускай школы.

# Паштовая скрынка.

**Падпішчыкам №№ 712, 1424, 1570, 2015 і др.**

Вы пытаецеся, якім чынам Вашыя адрасы, як толькі Вы выпісываеце нейкую парадачную беларускуюгазэту, пападаюць ураз-жа ў рэдакцыю павлюкевічаўскага „Грамадзкага Голасу“, і чаму Вам шлюць гэную брудную газэту?

Вось-жа адрасы гэныя, як відаць, арганізацыя „доктара“ Павлюкевіча проста **крадзе**. Дзе і як—ня ведаем: ці то на пошце ў Вільні, ці другой дарогай — мо' агенты тэй установы, у якой Павлюкевіч „працуе“, сочаць на Вашых поштах, хто выпісывае беларускія газэты, і перасылаюць адрасы Павлюкевічу?....

Аб тым, каб наша Рэдакцыя, ці якая іншая, давала гэным паном Вашы адрасы, — ведама, ня можа быць ніякае гутаркі!

Справа кражы нашых адрасоў ужо даручана адвакату, які зробіць належныя крокі перад судовымі ўстановамі.

Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.